


ОРГАН БЕЛАРУСКАИ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Authorized by EUCOM Hqs Civil Affairs Division, 1. January 1951, Nr. UNDP 225
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43

Circulation: 3500 copies. Sponsor: IRO

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 75 Нядзеля 11 лістапада 1951 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 5

# Бунт арабска-музулманскага сьвету

Да найважнейшых палітычных падзеяў апошняга часу, якія ня сходзяць з першых балонаў сусьветнае прэсы й парадку дня міжнародных канфэрэнцыяў, належаць бясспрэчна справы, што разыгрываюцца на Блізкім Усходзе — у Пэрсыі й Эгіпце: справа нацыяналізацыі іранскае нафты, гэтак і адначасовае адкліканьне Эгіптам англа-эгіпскіх дагавораў аб абароне Суэцкага каналу й супольнай англа-эгіпскай адміністрацыі Судану.

Скрайна варожыя да Захаду выступленьні ў Іране й Эгіпце пашыраюцца на ўвесь арабска-музулманскі сьвет і ахопліваюць што раз новыя краіны. Гэтак сьледам за Пэрсыяй і Эгіптам дамагаецца ўжо зрэвідаваньня падпісанага ў 1930 г. дагавору з Ангельшчынай на 25 год і Ірак, а ў францускім Мароко сільна развіваюцца незалежніцкія рухі, а апошнім часам Мараканскі Каардынацыйны Камітэт дамагаецца паставіць пытаньне незалежнасьці Мароко на парадку дня цяперашняй сэсыі Задзіночаных Нацыяў. Варожыя супраць Захаду крокі маюць месца й у Ярданіі й Пакістане, дзе нядаўна дайшло на гэтым фоне да ўбійства караля Ярданіі Абдуллага й прэм'ера Пакістану Ліякват Алі-хана.

Усе гэтыя падзеі не зьяўляюцца ў сябе адасобленымі, але існуе між імі цесная прычыновая сувязь. Яны зьяўляюцца генэральным, выкліканым тымі самымі прычынамі, бунтам арабска-музулманскага сьвету супраць Захаду, з толькі адна музулманская Турэччына, дзякуючы багатай гаспадарстваўскай традыцыі й палітычнай дасьпеласьці, непарушна стаіць па старане заходніх гаспадарстваў.

### ПРЫЧЫНЫ НЕЗДАВАЛЕНЬНЯ

Гэтыя прычыны хаваюцца ў гістарычным разьвіцьці сацыяльна-эканамічных і нацыянальна-палітычных дачыненьняў на фоне сільнага духовага ўзьдзейваньня задзіночваючай усе гэтыя народы й плямёны музулманскай рэлігіі з аднаго боку й уплыву эўрапэйскіх каляніяльных гаспадарстваў, што эксплаатавалі вялізарныя натуральныя багацьці Блізкага Усходу — з другога. Між гэтымі дзейнікамі, рухаючымі палітычным і сацыяльным разьвіцьцём Блізкага Усходу, узьніклі войстрыя супярэчнасьці, што й давялі да сяньняшняга выбуху.

Створаны й усанкцыянаваны ісламам нутраны сацыяльны й грамадзкі лад стаяў на перашкодзе ўсякім далёка йдучым рэформам, якіх вымагалі палітычныя й эканамічныя патрэбы. У арабска-музулманскіх краінах яшчэ й сяньня пануе адсталы напоўфэадальны лад, які кладзе асаблівыя цяжары на бяднейшыя слаі насельніцтва й родзіць вялікія супярэчнасьці між традыцыяй і вымогамі сучаснасьці. На пераломе XIX і XX стагодзьдзяў музулманскі Усход быў яшчэ нязвычайна бедным і адсталым з гледзішча культурна-цывілізацыйнага. Дзякуючы свайму рэлігійнаму фанатызму й гэтай адсталасьці ён ня мог падпасьці пад уплыў заходня-эўрапэйскай мэнтальнасьці. Аднак сяньня палажэньне шмат у чым зьмянілася. Блізкі Усход знаходзіцца цяпер у фазе прысьпешанай індустрыялізацыі, а ягонае насельніцтва усьведаміла сабе вялізарныя натуральныя багацьці іхных краінаў.

Сацыяльна-эканамічныя працэсы апошняга часу выклікаюць няўхільную патрэбу далёка йдучых сацыяльных рэформаў і грамадзкае перабудовы жыцьця. Але ўся бяда ў тым, што гэтыя натуральныя імкненьні пайшлі ў хвальшывым, скрайна нацыяналістычным кірунку. Імкненьне да сацыяльнага перавароту ўнутры краінаў шукае сабе выхаду ў тэндэнцыях навонкі — у распаленьні варожасьці да эўрапэйскага сьвету, які на думку масаў зьяўляецца адзінай прычынай усяго зла. Шыбкая эманцыпацыя арабскіх краінаў навонкі, у выніку якой было ўтворанае пакістанскае гаспадарства й звольненыя Бурма, Інданэзія, Цэйлон ад апекі эўрапэйскіх каляніяльных гаспадарстваў, выклікала церазьмернае пачуцьцё нацыянальнае гордасьці, якая ў крытычныя мамэнты даходзіць да стану экзальтацыі.

З гледзішча палітычна-гаспадарстваўскага ўсе гэтыя краіны зьяўляюцца вельмі маладымі й палітычна недасьпелымі. Гэтак Эгіпт быў ад 1904 г. пад брытанскім пратэктаратам і толькі ў 1922 г. стаўся незалежным каралеўствам. Сырыя аж да 1941 г. падлягала мандату Лігі Нацыяў, які зь ейнага даручэньня выконвалі французы. Лібан, пасьля францускай мандатнай адміністрацыі, стаўся толькі ў 1941 г. незалежнай рэспублікай. Ірак стаўся незалежным каралеўствам у 1942 г. пасьля брытанскай мандатнай адміністрацыі. Ярданія толькі ў 1946 г. атрымала незалежнасьць, выйшаўшы з пад мандату Задзіночаных Нацыяў. І шмат іншых музулманскіх краінаў толькі ў вапошні час прыступіла да будовы собскіх незалежных гаспадарстваў.

І вось усе гэтыя скрайныя супярэчнасьці ўнутры арабска-музулманскага сьвету пры ягонай культурнай адсталасьці й палітычнай недасьпеласьці й прывялі да сяньняшніх завастрэньняў, якія пераходзяць часта ўсякія межы й пхаюць усходніх палітыкаў часамі на неразважныя й шкодныя для інтарэсаў собскіх краінаў дзеяньні.

### КЛЮЧАВОЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ БЛІЗКАГА УСХОДУ

Варожыя крокі Ірану й Эгіпту зьяўляюцца непасрэдна скіраванымі супраць Ангельшчыны, тым ня менш аднак яны датычаць усяго заходняга сьвету. У насьвятленьні няўхільнага канфлікту з Савецкім Саюзам як з гледзішча эканамічнага, гэтак і стратэгічнага займае Блізкі Усход вельмі важнае ключавое палажэньне.

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Замежная палітыка Вялікабрытаніі

## перад вялікімі праблемамі

Як можна было прадбачыць, партфэль міністра замежных справаў Вялікабрытаніі ў новым урадзе Чэрчыля атрымаў Антон Ідэн, які абыймае гэтае становішча ўжо трэйці раз. Ягонае заданьне будзе цяжкім і адказным у сувязі з тым, што Вялікабрытанія стаіць перад цэлым радам важных міжнародных праблемаў, ад разьвязаньня якіх будзе ў вялікай меры залежыць ейны будучы лёс і значэньне ў сьвеце.

Сяньняшняе палажэньне Ангельшчыны ў сьвеце зьяўляецца найбольш крытычным, чымсьці калі-небудзь у гісторыі гэтае краіны. Ангельшчына пасьля апошняе сусьветнае вайны ня толькі страціла сваю вядучую сусьветную ролю на карысьць ЗША, але й ейнае значэньне ў Эўропе моцна пахіснулася. Восьмая калі нельга ўжо прыраўнаць мінулага блеску Вялікабрытаніі ў сусьветным маштабе, то ўсе аднак сымптомы гавораць за тым, што ўрад Чэрчыля будзе ўсімі сіламі намагацца пераняць кіруючую ролю ў Эўропе. А гэта будзе вымагаць ад замежнай палітыкі Ангельшчыны разьвязаньня цэлага раду важных міжнародных праблемаў, якія яшчэ ў сувязі з апошнімі няўдачамі на Блізкім Усходзе не зьяўляюцца ані простымі ані лёгкімі.

Перад замежнай палітыкай Ангельшчыны стаіць дзесяць наступных кардынальных палітычных праблемаў, якія зьмушаная яна будзе разьвязаць або заняць да іх сваё выразнае становішча:

**1. Справа Эгіпту й Судану:** Варожыя супраць ангельскія выступленьні ў Эгіпце трываюць далей і ня відаць, пакуль што, ніякіх пэрспэктываў на іхнае паладжаньне. Надзея на ўдзел Эгіпту ў ролі аднаго із закладчыкаў заплянаванага абароннага пакту Сярэдняга Усходу, каб такім шляхам зьліквідаваць зацінаваўшы канфлікт, поўнасьцю разьвеялася пасьля таго, калі эгіпскі ўрад катэгарычна адкінуў праект ягонага ўдзелу ў гэтым пакце. Штож датычыць Судану, фармальнае прылучэньне якога да Эгіпту ўжо адбылося, дык Ангельшчына здаецца пойдзе па лініі поўнае гаспадарстваўскае незалежнасьці гэтага краю. Ня гледзячы на тое, што бясьпечнасьць Суэцкага каналу зьяўляецца справай міжнароднай і што ёсьць яна ня менш важнай і для Амэрыкі, як і для ўсіх гаспадарстваў Атлянтычнага пакту, то аднак загроза бясьпечнасьці Суэцкага каналу у першую чаргу б'е па Ангельшчыне — па ейным палітычным аўтарытэце, эканамічным разьвіцьці й ейных абаронных плянах. Таму высілак Ангельшчыны дзеля ўтрыманьня статусу кво ў зоне Суэцкага каналу мусіць быць найбольшы.

**2. Справа пэрскае нафты.** Гэтага ня менш жыцьцёва важнага пытаньня не ўдалося дасюль разьвязаць ні тэй самой Ангельшчыне, але й Задзіночаным Штатам Амэрыкі, якія, як паказала місыя Гарымана ў Тэгэране й нядаўна адбытыя ў Вашынгтоне канфэрэнцыі іранскага прэм'ера Масадэка з прэзыдэнтам Труманам і міністрам замежных справаў ЗША Эчысонам, актыўна пасярэднічылі ў гэтай справе. Не змагла паладзіць англа-іранскага спору й міжнародная інстытуцыя — Рада Бясьпечнасьці. Гэтая апошняя пастанавіла адкласьці далейшыя нарады ў гэтым пытаньні да часу, калі міжнародны трыбунал у Гаазе выршыць справу кампэтэнцыі Рады Бясьпечнасьці ў англа-іранскім спорах. Іранскі ўрад ня думае аднак ісьці на ніякія ўступкі, што ўсю справу камплікуе далей і ставіць Ангельшчыну перад асаблівымі труднасьцямі.

**3. Брытанска-амэрыканскія дачыненьні.** Брытанскі ўрад будзе бясспрэчна імкнуцца да загарантаваньня як найбольшае помачы Амэрыкі ня толькі дзеля ўтрыманьня сваіх пазыцыяў у зоне Суэцкага каналу, але таксама й у паладжаньні ў духу собскіх інтарэсаў усіх рэвізыяністычных імкненьняў на Блізкім Усходзе. Каб гэтую помач Амэрыкі запэўніць, Ангельшчына будзе зьмушаная цясьней зьвязаць свой лёс зь лёсам Амэрыкі й больш станоўча падтрымліваць ейную пазыцыю на міжнародным грунце.

**4. Справа абароннага пакту Сярэдняга Усходу.** Перад ангельскай дыпляматыяй будуць стаяць два важныя пытаньні: 1. Як дасягнуць, каб пакт Сярэдняга Усходу стаўся моцным абаронным дзейнікам бяз удзелу ў ім Эгіпту й эвэнтуальнай адмовы за ўзорам Эгіпту прыступіць да пакту іншых арабскіх гаспадарстваў? 2. Якім спосабам прыцягнуць гаспадарства Ізраэля да ўдзелу ў пакце, каб унікнуць узнаўленьня жыдоўска-арабскага канфлікту?

**5. Дачыненьні з Савецкім Саюзам.** Падчас перадвыбарнай камапніі з кансэрватыўных колаў Вялікабрытаніі былі чуваць галасы пра патрэбу скліканьня канфэрэнцыі вялікай чацьвёркі, пра размову із Сталінам. Таму астаецца сяньня пытаньне адкрытым, ці Вялікабрытанія будзе імкнуцца да скліканьня гэтай канфэрэнцыі, ці будзе чакаць на ініцыятыву з боку саветаў. Некаторыя колы Вялікабрытаніі сур'ёзна баяцца, што Вялікабрытанія можа выбраць свой індывідуальны шлях у дачыненьні да Савецкага Саюзу, які на радасьць Сталіну пахісьне адзінства дэмакратычнага сьвету. Выдаецца аднак, што заява кансэрватыстых аб шуканьні паразуменьня із Сталінам была перадвыбарным агітацыйным трыкам, пры помачы якога яны імкнуліся зьнэўтралізаваць агітацыйны трык ляйбурыстых, што прыход Чэрчыля да ўлады ўцягне Ангельшчыну ў новую вайну. Аб гэтым да некаторай меры можа сьветчыць нядвузначная заява Ідэна, зробленая ім перад выбарамі: «Мы будзем дакладна правяраць усякую прапазыцыю Саветаў, але ня будзем запохляцца прыгожымі словамі, за якімі не стаяць канкрэтныя чыны».

**6. Справа Нямеччыны.** Гэтая праблема абыймае тры цесна зьвязаныя з сабою пытаньні, да якіх новы ангельскі ўрад будзе зьмушаны заняць сваё становішча: пытаньне задзіночаньня Нямеччыны, палажэньне ў Усходняй Нямеччыне й пытаньне ўдзелу Нямеччыны ў вабаронных прыгатаваньнях Эўропы. Судзячы з ранейшых выказваньняў Чэрчыля на гэтую тэму, не падлягае найменшаму сумліву, што Ангельшчына выскажацца за як найбольшы нямецкі ўдзел у вабаронных плянах Эўропы, а ў сувязі з гэтым будзе зьмушаная шырэй падтрымліваць ЗША у іхных імкненьнях да прывярненьня Нямеччыне поўнага сувэрэнітэту.

**7. Брытанска-францускія дачыненьні:** Перад некалькімі тыднямі францускі міністар замежных справаў Шуман выказаўся за канечнасьць ясьнага спрэцызаваньня брытанска-францускіх узаемадачыненьняў перадусім з гледзішча на эўрапэйскія, як і блізкаўсходнія праблемы. Астаецца тады на сяньняшні дзень пытаньне адкрытым, якое становішча займе Ангельшчына ў галіне супрацоўніцтва з Францыяй.

**8. Эўрапэйская палітыка Вялікабрытаніі.** Тут вынырае пытаньне, якое становішча займе новы ангельскі ўрад у дачыненьні да кантынэнтальна-эўрапэйскіх фэдэрацыйных плянаў, пляну Шумана й эўрапэйскай арміі й якую ролю захоча адыграць Ангельшчына ўва ўсіх гэтых плянах.

**9. Задзіночаныя Нацыі.** Гэтае пытаньне набірае асаблівай вайстрыні ў сувязі з тым, што орган ЗН — Рада Бясьпечнасьці, будучы па свайму характары найбольш правамоцным аўтарытэтам у вырашэньні міжнародных спораў, не апраўдала аднак спадзяваньняў Ангельшчыны ў ейным споры за іранскую нафту. Апошнім часам ангельская кансэрватыўная прэса войстра заатакавала Задзіночаныя Нацыі, закідаючы, што гэтая інстытуцыя інакш адносіцца да інтарэсаў ЗША й зусім інакш да ангельскіх. У далейшым справа камплікуецца тым, што гэтае незадаваленьне палітыкай ЗН пераносіцца й на ўзаемадачыненьні Ангельшчыны з ЗША, так як на думку ангельцаў гэтая інстытуцыя зьяўляецца поўнасьцю на ўслугах амэрыканскай замежнай палітыкі. У палітычных колах лічацца навет з думкай, што Ангельшчына будзе імкнуцца да зьмены Карты ЗН.

**10. Карэя й камуністычны Кітай.** Калі ўрад Этлі вызнаў камуністычны Кітай, Чэрчыль быў супраць такой палітыкі й войстра крытыкаваў гэты крок ляйбурыстаўскага ўраду. Таму цяпер нязвычайна інтрыгуючым зьяўляецца пытаньне, ці Чэрчыль выцягне ўсе кансэквэнцыі з занятага ім раней становішча й анулюе вызнаньне камуністычнага ўраду Мао-Тсэ-Тунга, ці пагодзіцца з ужо дакананым фактам?

Зь пералічаных вышэй праблемаў замежнае палітыкі, якія стаяць перад новым ангельскім урадам, бачым, што адыход Этлі й пераняцьце ўлады Чэрчылем ня ёсьць звычайнай зьменай варты на брытанскім гаспадарстваўскім карablі. Прыход да ўлады Чэрчыля абазначае ў многіх выпадках зьмену аснаўнога курсу вялікабрытанскай замежнай палітыкі, а ў кажным выпадку ўнясеньне большай яснасьці й станоўчасьці ў пазыцыі Вялікабрытаніі да першарадных міжнародных праблемаў.

(-іч)

# 34-ая гадавіна сусьветнага злачынства

7 лістапада ўвесь камуністычны сьвет шумна адсьвяткаваў 34-ую гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі, якая забясьпечыла перамогу бальшавіцкай партыі ў Расеі й распачала няведаны яшчэ ў сьвеце нявольніцтва, фізычны й маральны тэрор у дачыненьні да народаў, што палі ахвярамі камуністычнага рэжыму. Кастрычніцкая рэвалюцыя палажыла таксама пачатак расейска-бальшавіцкім імкненьням да запанаваньня над цэлым сьветам, націскаючы на ягоную яшчэ свабодную частку, звонку, як і падміноўваючы знутры.

Увесь кіраўнічы апарат Савецкага Саюзу, як і паслухмяныя яму камуністычныя агентуры цэлага сьвету ў гэты дзень аж расьпіналіся выхваляючыся эпахіяльнымі заваяваньнямі кастрычніка для дабра й прагрэсу ўсяе людзкасьці, бессаромліва заяўляючы, што кастрычніцкая рэвалюцыя зьнішчыла раз назаўсёды эксплаатацыю чалавека чалавекам, паняволеньне народу народам і адкрыла людзкасьці шырокі шлях да запраўднага шчасьця, прагрэсу й дабрабыту.

Аб гэтым усьцяж крычала й крычыць бальшавіцкая прапаганда. Але ў запраўднасьці зродженая кастрычніцкай рэвалюцыяй савецкая сыстэма зьяўляецца жахлівай формай нявольніцтва, фізычнага й маральнага тэрору, нацыянальнага прыгнечаньня, эканамічнага вызыску й сацыяльнай эксплаатацыі. Для бальшавіцкага паняволеньня, зьдзеку над чалавечай годнасьцю й найбольш вырафінаванага вызыску ня знойдзем параўнаньня ані ў паняволеньні й вызыску старажытных эгіпцянаў іхнымі фараонамі, ані рымскіх нявольнікаў іхнымі патрыцыямі, ані ўрэшце ў прыгонніцкай сыстэме ў нашай бацькаўшчыне. Хіба ўсе гэтыя клясычныя формы нявольніцтва ўзятыя разам маглі-б зраўнаважыць той жудасны нявольніцкі стан, якім зьяўляюцца ўсе заваяваньні кастрычніка.

А што прынесла кастрычніцкая рэвалюцыя беларускаму народу? Пры помачы масавых расстрэлаў і ссылак у лягеры прымусовае працы былі ў імя ідэяў кастрычніка фізычна зьнішчаныя цэлыя тысячы перадавой беларускай інтэлігенцыі, паэтаў, пісьменьнікаў, навукоўцаў, культурных і грамадзкіх дзеячоў і каля трох мільёнаў беларускага сялянства. Перавагаю фізычнае сілы расейскага бальшавізму быў разбураны новы гмах беларускага незалежнага гаспадарства, а воляллюбны беларускі народ, пазбаўлены ўсіх палітычных і нацыянальных правоў, стаўся аб'ектам прымусовае русыфікацыі. Асноваваны на матарыялістычным сьветапаглядзе камунізм намагаецца вырваць з душы нашага народу ягоныя рэлігійныя пачуцьці, як і зьнішчыць у ім усякія ідэалістычныя парывы. У той час, калі ўсе вольныя народы сьвету раўналежна з разьвіцьцём культуры й тэхнікі бесьперапынна йдуць наперад, Беларусь на працягу бальшавіцкага панаваньня была даведзеная да стану суцэльнае руіны, а беларускі народ за сваю непасільную працу атрымлівае ў заплаце вечныя нястачы, голад і прымітыўныя ўмовы жыцьця.

Такі агульны біланс раскрычаных бальшавікамі гістарычных заваяваньняў кастрычніка, якія ня шчасьце й дабрабыт, але непасільныя мукі й горкія сьлёзы прынесьлі беларускаму народу. Такі-ж самыя няшчасьці сталіся ўдзелам усіх тых народаў, што, як і народ беларускі, апынуліся супраць сваей волі пад бальшавіцкім панаваньнем.

Усе гэтыя няшчасьці, што прынёс бальшавізм для паняволеных ім народаў, прыгатаўляе чырвоны Крэмль і для цэлага сьвету. А каб найхутчэй зрэалізаваць свае праступныя мэты, ён падміноўвае ўсе народы й краіны сьвету ядам сваей ілжывай прапаганды, для праводжаньня дывэрсіі й актаў сабатажу творыць свае пятыя калёны. Вольны дэмакратычны сьвет, ідучы супраць голасу свайго сумленьня дзеля дасягненьня канъюнктуральных і сумлiўных

(Заканчэньне на 2. балоне)

 



# Бунт арабска-музулманскага сьвету

(Заканчэньне)

Для лепшага зарыентаваньня чытачоў аб вялізарным значэньні для Захаду пэрскае нафты, прывядзём некалькі лічбаў і датаў. У 1901 г. ангелец Вільям Дарсі атрымаў за 20.000 даляраў выключны манаполь на эксплятатацыю іранскае нафты, якая магла быць знойдзеная на тэрыторыі 1,3 мільёнаў квадратных кілямэтраў Пэрсыі. Сем год цяжкае працы ў вялізарных выдаткаў каштавала, пакуль былі адкрытыя ў 1908 г. першыя нафтовыя крыніцы. Тады-ж засноўваецца Англа-іранскае нафтовае таварыства, а ў 1914 г. атрымлівае цяперашні ангельскі прэм'ер Чэрчыль за 10 мільёнаў даляраў для брытанскага ўраду права кантролі над ім. Пачынаючы з 1908 г., адбываецца бесьперапынная прадукцыя іранскае нафты, якая ў вапошнім часе перавысіла 35 мільёнаў тонаў у год. Нафта плыве з многаліхіх нафтовых палёў цераз нафтавыя правады даўжынёю 2.800 кілямэтраў да найвялікшай у сьвеце нафтовай рафінэрыі ў Абадане.

Вартасьць толькі аднэй рафінэрыі ў Абадане аблічваецца на суму 560 мільёнаў даляраў. Агульная вартасьць усіх нафтовых уладжаньняў у Пэрсыі мае перавышаць адзін мільярд. Уся праца над прадукцыяй нафты выконвалася 2.725 ангельскімі спэцыялістымі й урадаўцамі пры помачы 60—80 тысячаў іранскіх работнікаў. Брытанскія танкеры транспартавалі іранскую нафту на ўсе суьветныя рынкі збыту. Транспартам нафты былі занятыя 142 ангельскія спэцыяльныя караблі, а 38 далейшых знаходзіцца ў будове. Англа-іранскае нафтовае таварыства, апрача Пэрсыі, мае ў сваім распараджэньні рафінэрыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі, Францыі, Ізраэлю й Аўстраліі, а свае прадажныя агентуры ў цэлым сьвеце.

У пачатку трыццатых гадоў на дамаганьне іранскага ўраду й пры пасярэдніцтве Лігі Нацыяў было заключанае новае пагадненьне, якое забясьпечыла больш зыск для іранскага ўраду й абмежавала тэрыторыю для Англа-іранскага таварыства да 250.000 кв. клм. У 1949 г. было падпісанае новае пагадненьне, якое павялічыла іранскія даходы й прадбачыла ўвядзеньне пэрсаў у склад дырэкцыі таварыства. Аднак гэтае пагадненьне ня было іранскім парлямантам ратыфікаванае, а іранскі прэм'ер Размара, які ў канцы сакавіка сёлета настойваў на ратыфікацыі, быў чатыры дні пазьней замардаваны. 2 травеня пастановаю парляманту ў Тэгеране былі ўсе рафінэрыі нацыяналізаваныя, а некалькі месяцаў пазьней ангельскі тэхнічны пэрсанал быў змушаны пакінуць Пэрсыю.

Што-ж датычыцца Судану, які аднастароньнім зарваньнем эгіпцянамі англа-эгіпскага дагавору з 1899 г. фармальна зьяўляецца прылучаным да Эгіпту, дык зьяўляецца ён вялізарнай краінай на 2,5 мільёны кв. клм., насельніцтва якога выносіць толькі 7,5 мільёнаў жыхароў. У 1898 г. ён быў заваяваны брытанцамі, якія стварылі зь яго супольную брытанска-эгіпскую кондомінію, адміністраваную практычна ангельцамі. Значэньне Судану для заходняга сьвету палягае на ягоным ключавым палажэньні на афрыканскім кантынэнце, якое дае магчымасьць кантраляваць усю гэтую частку сьвету. Для Ангельшчыны зьяўляецца Судан нязвычайна важнай крыніцай сыравіны для ангельскага тэкстыльнага промыслу — бавоўны, якая становіць звыш 60% усяго экспарту гэтае краіны. Тэкстыльныя хвабрыкі сярэдняангельскай прамысловай акругі Ленкшыр зьвязаныя «на жыцьцё й сьмерць» з Суданам, а Судан узаемна зь імі.

Але найважнейшую ролю адыгрывае для Захаду Блізкі Усход з гледзішча на ягонае стратэгічнае палажэньне ў насьпяваючым канфлікце Захад-Усход. Дзякуючы свайму выключнаму геапалітычнаму палажэньню Блізкі Усход зьяўляецца натуральным памостам, што злучае Эўропу, Азыю й Афрыку. Хто зь сяньняшніх сусьветных магутнасьцяў будзе мець кантроль над Блізкім Усходам, у таго будзе й ключ ад гэтых трох часьцей сьвету. Канкрэтна, Блізкі Усход зьяўляецца цэнтральнай пазыцыяй абароны Міжземнаморскага прастору, Індыі й Афрыкі, а для Эўропы ён становіць паўдзённы фланг Атлянтычнага пакту. Суэцкі канал, што зьяўляецца собскасьцю Ангельшчыны й знаходзіцца на тэрыторыі Эгіпту, ёсьць найкарацейшай штучнай магістраляй, якая злучае Атлянтычны акіян з акіянам Індыйскім і зьяўляецца адзіным простым шляхам з Эўропы ў сярэднюю, паўдзённую й далёкаўсходнюю Азыю, а таксама ў Аўстралію й Новую Зэляндыю.

### ШТО ПРАДПРЫМЕ ЗАХАД?

Усьведаміўшы выключнае эканамічнае й стратэгічнае значэньне Блізкага Усходу для абаронных мэтаў Захаду, станецца ясным, што заходні сьвет ні за якую цану ня здасьць сваіх блізкаўсходніх пазыцыяў, а зробіць усё для яго магчымае, каб утрымаць гэтую важную тэрыторыю ў варбіце сваіх уплываў.

Што датычыцца спору за іранскую нафту, дык дзякуючы няўступліваму становішчу Ірану й поўнай няўдачы дасюлешніх намаганьняў Захаду справа зайшла ў тупік. І на сяньняшні дзень Захад яшчэ ня высунуў ніякага новага праекту, які даваў-бы надзеі на ліквідацыю спору.

У дачыненьні да Судану некаторыя сымптомы гавораць за тым, што Захад будзе склонны да прызнаньня поўнага сувэрэнітэту Судану, тым больш, што й суданцы ня выказваюць асаблівай ахвоты папасьці ў эгіпскую няволю, але імкнуцца да собскай гаспадарстваўскай незалежнасьці.

Англа-эгіпскі спор за стацыянаваньне ў зоне Суэцкага каналу ангельскіх збройных сілаў Захад намагаўся зьлiквідаваць стварэньнем абароннага пакту Сярэдняга Усходу, у які ўвайшоў-бы й Эгіпт, як адзін зь ягоных закладчыкаў. У такім выпадку роля абароны Суэцкага каналу была-б перанятая супольнымі збройнымі сіламі пакту, у тым ліку эгіпскімі й ангельскімі. Катэгарычная адмова Эгіпту прыняць удзел у гэтым пакце не пахіснула становішча заходніх гаспадарстваў, якія зьяўляюцца наважанымі зарганізаваць гэты пакт навет бяз удзелу Эгіпту. Ініцыятары Сярэднеусходняга пакту, пайменна ЗША, Вялікабрытанія, Францыя й Турэччына апошнімі днямі зрабілі далейшыя крокі над рэалізацыяй гэтага пляну. Як паведамляюць з Вашынгтону й Лёндану, былі перададзеныя ўрадам Сырыі, Лібанону, Саўды-Арабіі, Ярданіі, Еману й Ізраэлю праекты высказацца ў справе заплянаванага пакту. З другога боку міністар замежных справаў Эгіпту запрасіў прадстаўнікоў арабскіх гаспадарстваў у Каір, каб зрабіць на іх уплыў у духу эгіпскай палітыкі. Апрача гаспадрстваў Блізкага Усходу, у пакце маюць прыняць удзел таксама Новая Зэляндыя, Аўстралія й Паўдзенная Афрыка.

Трэба пры гэтым адцеміць, што Захад ня можа пакінуць Блізкага Усходу без сваіх абаронных пунктаў навет на выпадак прыязнага нэўтралітэту блізкаўсходніх гаспадарстваў. Блізкі Усход, а ў першую чаргу Суэцкі канал апынуліся-б пад вялікай загрозай, бо збройныя сілы блізкаўсходніх гаспадарстваў зьяўляюцца зусім недастатковымі, каб абараніць гэтыя пазыцыі.

Ня трэба й даказваць, што ўсе гэтыя цяжкасьці для заходняга сьвету на Блізкім Усходзе зьяўляюцца толькі вадой на млын для Савецкага Саюзу, які, хоць, праўда, устрымана, але ўсюды, дзе можа, падтрымлівае варожасьць супраць Захаду. Музулманская мэнтальнасьць арабскіх народаў не зьяўляецца падатнай на камуністычныя ўплывы, тым ня менш аднак у Іране й Эгіпце праяўляюцца й прасавецкія настроі ня толькі ў масах, але й у ўрадавых колах.

Чым гэты блізкаўсходні канфлікт кончыцца, сяньня яшчэ трудна прадбачыць. Адно ёсьць пэўным, што вузёл нязгоды моцна зацiснуўся й разьвязаць яго ня будзе лёгкай справай. Тым ня менш аднак Захад за ўсякую цану будзе імкнуцца да таго, каб ня толькі ягоныя пазыцыі на Блізкім Усходзе ня былі страчаныя, але навет аслабленыя.

**Алесь Крыга**

**Не павінна быць аніводнага працуючага або іншым спосабам зарабляючага беларуса, які-б чытау «Бацькаўшчыну» задарма! Таксама не павінна быць аніводнага сьвядомага беларуса, які-б яе ня чытау зусім!**

# Сялянскае паўстаньне у Казахстане

Радыё «Голас Амэрыкі», кіраванае гаспадарстваўскім дэпартамэнтам ЗША, на падставе вестак, атрыманых ад уцекачоў із СССР, нядаўна паведаміла, што на тэрыторыі Казахстану ўлетку сёлета адбылося вялікае сялянскае паўстаньне. Амэрыканская газэта ў нямецкай мове «Ді Нойе Цайтунг» за 1 лістапада ў сувязі з гэтым паведамленьнем зьмясьціла абшырны артыкул, у якім, апіраючыся на высказваньнях савецкае прэсы, прадставіла вялікае нездаваленьне сялянства ў цэлым Савецкім Саюзе й асабліва ў Казахстане з новай савецкай сельскагаспадарскай палітыкі.

Казахстан — гэтая другая па вялічыні саюзная рэспубліка, якая ў пяць разоў зьяўляецца большай за Францыю, ёсьць пакрытай пераважна пустынямі й мае нязвычайна рэдкае насельніцтва. З гледзішча на вялікія натуральныя багацьці, як вугаль і зялеза, як і на гэапалітычнае палажэньне Казахстану, цераз які лучыцца Касьпійскае мора зь Сібірам, саветы ад даўжэйшага часу зьвяртаюць на Казахстан асаблівую ўвагу й шляхам штучнага навадненьня імкнуцца перарварыць яго ў квітнеючую сельска-гаспадарскую краіну. Каб здабыць дастатковую колькасьць рабочых рук, галоўным чынам бясплатную работніцкую сілу для працы ў індустрыі й земляробстве, Казахстан стаўся адным з галоўных пунктаў савецкіх ссылак з усей тэрыторыі Савецкага Саюзу. «Так многа калгасаў зьяўляюцца тут заселенымі расейцамі, украінцамі, беларусамі, немцамі з Паволжа й іншымі, — чытаем у «Нойе Цайтунг», — што паступаньне сялянства ў Казахстане можна ўважаць за адлюстраваньне паступаньня ўсяго савецкага сялянства».

Вялікія нездаваленьні сялянства ў Казахстане былі галоўным чынам выкліканыя новай бальшавіцкай сельскагаспадарскай палітыкай. Раней у Казахстане кажны калгасьнік меў для собскага індывідуальнага абрабленьня два маргі зямлі й мог трымаць адну карову. Пасьля ўзбуйненьня калгасаў сяляне гэтыя магчымасьці поўнасьцю страцілі. Таму ўжо паўтара году назад распачалася ў Казахстане масавая акцыя пасыўнага супраціву сялянства й сабатаваньня ўсякага роду савецкіх мерапрыемстваў у калгасах. А летам бягучага году акцыя гэтая вылілася ў вадкрытае сялянскае паўстаньне, якое спэцыяльна прысланымі войскамі МВД было крывава здушанае.

### ГЕНЭРАЛЬНАЯ СЭСЫЯ ЗН ПАЧАЛАСЯ

У аўторак 6 лістапада распачалася ў Парыжы шостая рэгулярная сэсыя Задзіночаных Нацыяў, удзел у якой прымаюць прадстаўнікі амаль усіх 60 гаспадарстваў — сяброў ЗН. На прэзыдэнта гэтай сэсыі быў выбраны прадстаўнік Мэксыкі — др. Нэрво. Гэтай сэсыі прыпісваецца ў цэлым сьвеце вялікае значэньне й уважаецца, што з усіх папярэдніх сэсыяў яна будзе ў некаторых пытаньнях найбольш вырашальнай. А ўсіх пытаньняў або пунктаў парадку дня, якія маюць быць сэсыяй разгледжаныя, ёсьць каля 80.

Гэтая сэсыя мае распачаць новы курс палітыкі Захаду ў дачыненьні да Савецкага Саюзу. Захад мае цяпер станоўча адкінуць дасюлешнюю сваю тактыку адбіваньня савецкіх нападаў і перайсьці да наступу, пераймаючы ў халоднай вайне ініцыятыву ў свае рукі. Таму на гэтай сэсыі бясспрэчна вынырнуць многія цікавыя мамэнты.

### ПРЭЗЫДЭНТ ФРАНЦЫІ ЗАКЛІКАЕ ДА СПАТКАНЬНЯ ВЯЛІКАЙ ЧАЦЬВЁРКІ

**У сваей прамове, сказанай 6 лістапада да сяброў цяперашняй сэсыі Задзіночаных Нацыяў у Парыжы, францускі прэзыдэнт Орыёль выразіў пажаданьне, каб для справы міру спаткаліся кіраўнікі чатырох гаспадарстваў, у руках якіх знаходзіцца лёс усяго сьвету. Хаця прэз. Орыёль не назваў па імені, хто ўзяў-бы ўдзел у гэтым спатканьні, але бясспрэчна меў ён на думцы Сталіна, Трумана, Чэрчыля й сябе самога. Ён падчыркнуў, што было-б найлепей, калі-б гэтае спатканьне адбылося ў Парыжы, дзе цяпер праходзіць сэсыя ЗН.**

# 34-ая гадавіна сусьветнага злачынства

(Заканчэньне)

карысьцяў, нярэдка аказваў бальшавізму выдатную помач, спрычыняючыся такім чынам да ягонага росту ўнутры Савецкага Саюзу, гэтак і да пашырэньня забойчых камуністычных уплываў паза ягонымі межамі. Але за гэтыя неразважныя крокі Захад дорага ўжо заплаціў навет собскай крывёю на палях Карэі. Калі на працягу ўсяго пэрыяду існаваньня бальшавізму паняволеныя ім народы былі поўнасьцю пакінутымі самымі сабе ў цяжкім і няроўным зь ім змаганьні, то ўжо сяньня маюць у вольным сьвеце свайго моцнага саюзьніка.

Таму сяньня ўсе волялюбныя народы сьвету, як тыя, што ўжо ад трыццаці чатырох год цягнуць на сабе крывавае бальшавіцкае ярмо ці што ўзьдзелі яго яшчэ нядаўна, так і тыя, на шыю якіх гэтае ярмо можа быць накінутае заўтра, павінны натужыць усю сваю волю й задзіночыць усе свае сілы ў бескампрамісовым змаганьні з найвялікшым злом сучаснасьці — бальшавізмам.

Калі сяньня ўсе бальшавіцкія запраўілы й іхныя агентуры ў вольным сьвеце захлынаюцца ад радасьці із свайго трыумфу, мы беларусы павінны яшчэ болей напружыць свае сілы ў нашым зацятым змаганьні з маскоўскім бальшавізмам, які ў дачыненьні да нашага народу адыграў ганебную ролю крывавага ката.

# Аб прыродных багацьцях Беларусі

(Працяг, глядзі № 74)

### ЖЫВЕЛАГАДОЎЛЯ

Дзякуючы вясеньнім разьлівам рэк і рэчак, у Беларусі ёсьць шмат ураджайных лугоў, сенажацяў і пасьбішчаў. Дзеля гэтага ў Беларусі ёсьць яшчэ магчымай экстэнсыўная форма жывёлагадоўлі, якая зьяўляецца менш каштоўнай за жывёлагадоўлю інтэнсыўнай формы.

У выніку гэтага ў Беларусі да рэвалюцыі 1918 г. прыпадала ў сярэднім на адзін квадратны кілямэтр 22 кані, у расейскай-жа імпэрыі толькі 10. Кароў у Беларусі — 45, у расейскай імпэрыі — 15. Сьвіней і авечак таксама ў Беларусі было прыблізна ўдвойчы больш на адзін кв. клм., чымсьці ў цэлай расейскай імпэрыі. Таму зь Беларусі ішло штогод на экспарт мільёны пудоў мяса, масла, сыраў ня толькі ў Нямеччыну, а й у Расею, Польшчу й Украіну.

Толькі беларус з гэтага мала меў даходу, бо пры старой царскай сыстэме забіралі найбольшую частку заработку гандляры-пасярэднікі. Пры цяперашняй, савецкай сыстэме, хоць экспарт зьяўляецца арганізаваны, і то вельмі добра, пытаньне, ці пры разбуранай нашай сельскай гаспадарцы ёсьць наагул што вывозіць.

### ТЭХНІЧНЫЯ КУЛЬТУРЫ, САДОЎНІЦТВА, ПЧАЛЯРСТВА

З тэхнічных культураў Беларусі, заваяваўшых сабе вялікую славу на міжнародным рынку й маючых для нашага экспарту паважнае значэньне — ёсьць лён. Зь беларускім лёнам ня можа канкураваць ніводнае гаспадарства.

Францыя, Нямеччына, Ангельшчына й іншыя тэкстыльныя цэнтры для сваей льняной індустрыі купляюць у першую чаргу беларускі лён, а іншы толькі тады, калі беларускага не хапае. Францускія прамыслоўцы й гандляры для абазначэньня паасобных сартоў лёну вядаюць нат' беларускія словы «галавасьцік» і «стаўбунец», якія яны ўжываюць, як францускія словы, вымаўляючы «алявасік» і «стобіюнэк».

Чаму-ж так высака цэніцца беларускі лён? А таму, што ў ніводнай краіне не расьце ён такой добрай якасьці. Відаць кліматычныя ўмовы Беларусі якраз гэтаму найбольш спрыяюць. Практыка паказала, што ў халаднейшых краінах за Беларусь лён дае вельмі грубое валакно, у цяплейшых — надта слабое й ня моцнае, а то проста толькі кастру. Валакно-ж беларускага лёну доўгае, далікатнае, амаль як вата, толькі што за вату мацнейшае й лепш уцягвае ў сябе пот чалавека.

Да вайны 1914 г. зь Беларусі вывозілася лёну заграніцу штогод прыблізна на 75.000.000 царскіх рублёў. На нутраным рынку, як ведама, нашае сялянства апраналася выключна з вырабу собскага лёну.

Таму для беларускага незалежнага гаспадарства існуюць цудоўныя ўмовы для паўстаньня сваей собскай ільняной прамысловасьці. Яна ўжо й так мела не

2) благія зародкі, прыкладам у Беласточчыне, але была яна ў чужых руках, у нямецкіх прадпрыемцаў.

Семя ад лёну дае шмат туку, алею.

Побач зь лёнам добра родзяць каноплі, валакно якіх вельмі падобнае сваей якасьцю да лёну й добрае на грубейшыя вырабы, як мяхі, вяроўкі й шнюры для асновы пры тканьні дарагіх дываноў і інш.

Другой высока якаснай тэхнічнай расьлінай у Беларусі зьяўляецца ня так яшчэ даўно «вынайдзеная» ў нас азыяцкая расьліна кок-са-гіз, якую адзін беларускі вучоны прытарнаваў да нашага клімату й якая расьце на балоцістым груньце, а ў нас — на нашых палескіх балотах. Расьліна гэтая дае высокі працэнт прыроднага каўчуку (гумы). На Беларусі яго ўжо засяваецца каля 20 тысячаў гэктараў, а ў Менску ёсьць нат' адна хвабрыка вырабу зь яго каўчуку.

Прыймаючы пад увагу вялікія ў нас абшары балотаў, пэрспэктывы каўчуковай прадукцыі ў Беларусі бліскучыя. На каўчук-жа, як ведама, дзякуючы разьвіцьцю самаходнай індустрыі, што раз шырэйшаха ўжываньня ў сухапутным пранспарце аўтаў, матацыкляў і самакатаў — попыт прагрэсыўна ўзрастае й будзе ўзрастаць.

Эўропа дагэтуль абслугоўваецца каўчуком Азыі, Афрыкі й Амэрыкі. Немцы выраблялі трохі штучнага (сынтэтычнага) каўчуку, але каштуе ён шмат даражэй і якасьць ягоная горшая. Прадукцыя прыроднага каўчуку ў Беларусі зьяўляецца таму адзінай на ўвесь эўрапэйскі кантынэнт.

### ЛЯКАРСКІЯ ЗЁЛКІ

Беларусь нязвычайна багатая разнаякай расьліннасьцю, а ў тым ліку й лякарскімі зёлкамі. Дагэтуль усе гэтыя зёлкі й карэньні йшлі зь Беларусі заграніцу за бесцэн. Таму для фармацэўтычнай прамысловасьці ў Беларусі ёсьць таксама добры грунт.

### ТАБАКА

Добра родзіць у Беларусі табака. Амаль кажны селянін яе сеіць украдкам і курыць прымітыўна прыпраўленую табаку. Пабудаваўшы табачна-абрабляючыя навачасныя хвабрыкі, можна было-б палепшыць і якасьць табакі й унікнуць давозу чужога гэтага «люксусу», на якім, як ведама, ёсьць вельмі вялікі зыск.

### ЦУКРОВЫ БУРАК, ВІНАГРАД

Апошнім часам выяўлена, што ў Беларусі бурак дае высокі працэнт цукру й добра родзіць (660 цэнтнараў з гэктара). Савецкія улады павялі інтэнсыўную прапаганду за пасеў цукровага бурака ў Беларусі, абяцаючы ў Горадзеншчыне збудаваць вялізарныя хвабрыкі цукру.

Гэтак-жа вядзецца й прапаганда за пасадку вінаграднікаў на Беларусі, які, як паказала практыка, таксама добра родзіць.

### САДОЎНІЦТВА

Адносна садоўніцтва на Беларусі можна сказаць тое самае, што мы сказалі пра лён. І тут прырода Беларусі абдарыла нас найлепшымі сартамі яблыкаў, грушаў, сьліваў, вішняў і інш. Кажны з нас, каго лёс прымусіў пабадзяцца па розных эўрапэйскіх ды пазаэўрапэйскіх краінах, пераканаўся, што нідзе ён не натрапіў на так добрыя сарты яблыкаў або груш, як нашыя «Антонаўкі», «Вінныя», «Слуцкія бэры», «Горадзенскія сапежанкі» або вішні й розныя сарты сьліваў.

Фруктовыя дрэвы ў Беларусі растуць вельмі добра, амаль зусім не хварэюць. Ня гледзячы на гэта, садоўніцтва ў Беларусі разьвітае вельмі слаба. Беларуская вёска, сьціснутая сваей вузкапалосіцай, не давала нашаму селяніну змогі разьвесьці на шырокую скалю саду навакол свае хаты, а адносіць сад далёка ад хаты беларус ня любіў. Да гэтага была яшчэ перашкодай ягоная адсталасьць у сельска-гаспадарскай культуры.

Найбольшыя сады мелі абшарнікі Беларусі, але гэтыя апошнія не асабліва гналіся за даходамі з фруктаў, бо ім хапала й так даходаў зь іхных маёнткаў.

Праведзеная належна зямельная рэформа ў будучай Беларусі й заахвочаньне нашых сялян да разводжаньня садоў ня толькі забясьпечыць усё насяленьне ўдоваль гэтым так выжыўным прадуктам, а нат' дасьць не малы даход зь ягонага экспарту.

### ПЧАЛЯРСТВА

Пчалярства ў Беларусі ў даўнія часы было асабліва разьвітым. Гандаль Беларусі мёдам і воскам даваў шмат даходу гаспадарству. Зь мёду выраблялiся напіткі, падобныя да сяньняшніх густых францускіх лікёраў, як «Бэнэдыктын», якому адказваў г. зв. «Літоўскі мядок». Наш Вялікі князь Вітаўт на каранацыі сваей на беларускага караля зьдзівіў гэтым напіткам усіх манархаў Эўропы, што былі зьехаліся на гэтую ўрачыстасьць.

Пчалярства вымагае вельмі мала працы. Калісь нашыя сяляне разьвешвалі ў лесе на дрэвах «калоды», у якіх пчолы самі разводзіліся ды давалі шмат мёду, маючы навокал масу лясных зёлак ды лугоў, багатых салодкімі кветкамі. Цікава, што з упадкам беларускага гаспадарства вельмі падупаў і пчалярскі промысл. Магчыма гэта таму, што беларускі селянін адганяўся ад лесу.

Цяпер найбольш яшчэ пашырана пчалярства ў Піншчыне, Мазыршчыне й Бабруйшчыне, дзе ёсьць яшчэ каля 40.000 пасекаў. З гэтых пасекаў да вайны 1914 г. прадавалася прыблізна ўгод каля 250.000 пудоў мёду і 30.000 пудоў воску. Шмат мёду псавалася пры вы-

 

# ЭРА АМЭРЫКІ

Прызвычаіўшыся да штодзённага ходу выпадкаў, мы часта й не заўважаем, што ўклад сусьветных сілаў ад апошняе вайны грунтоўна зьмяніўся, што роля кіраваньня ўсім сьветам перасунулася із старой Эўропы на малады паўночна-амэрыканскі кантынэнт.

Да першай сусьветнай вайны Эўропа мела яшчэ вырашальны голас у сусьветнай палітыцы. Прычынай гэтага быў яшчэ сільны ў той час ізаляцыянізм Амэрыкі, якая, згодна традыцыйнаму, заложанаму яшчэ прэзыдэнтам Монро прынцыпу — Амэрыка для амэрыканцаў — не хацела ўмешвацца ў справы, што беспасярэдна яе не дачылі. З другога боку Эўропа яшчэ тады знаходзілася ў росквіце сваей магутнасьці й магла яшчэ канкураваць з усьцяж узрастаючым значэньнем Амэрыкі. У пэрыяд між першай і другой сусьветнай вайной палажэньне значна мяняецца. Амэрыка ў сваім тэхнічным і эканамічным разьвіцьці пачынае што раз больш апераджаць Эўропу. Раўналежна з гэтым пачынае слабнуць амэрыканскі ізаляцыянізм. Амэрыканцы ўжо разумеюць, што іхныя собскія інтарэсы неразрыўна зьвязаны зь лёсам цэлага сьвету, што магутнасьць і прагрэс іхнае бацькаўшчыны залежыць галоўным чынам ад таго, ці й у якой ступені голас Амэрыкі будзе сьветам рэспэктаваны. Пачынаецца тады выразнае імкненьне Амэрыкі да поўнае гэгэмоніі ў сьвеце. Але Эўропа, якая ў эканамічным дачыненьні апынулася ўжо далёка ззаду, яшчэ ня хоча здаць сваіх пазыцыяў у галіне палітычнай. Вытвараецца такім чынам свайго роду раўнавага сілаў у сьвеце — з аднаго боку эўрапэйскага Захаду, з другога — ЗША.

Аднак апошняя сусьветная вайна гэтую раўнавагу бязьлітасна зьнішчыла на карысьць Амэрыкі. Эра Эўропы, якая трывала на працягу ўсяе гісторыі, беспаваротна канчаецца й распачынаецца эра Амэрыкі.

Мы часта наракаем на жахлівыя памылкі амэрыканскай палітыкі ваеннага й пасьляваеннага пэрыяду, прыпісваючы ім віну за ўсё тое зло, што навісла сяньня над сьветам у форме няведамага ў гісторыі нявольніцтва, вызыску й галіты аднэй шостай ягонай часьці й сьмяротнай загрозы для астальных пяці шостых. Паказваючы на гэтыя амэрыканскія памылкі, ня можна адначасна замыкаць вачэй і на тое, што Амэрыка сярод вольных народаў сьвету непрапарцыянальна дорага за гэтыя памылкі й плаціць. З асаблівым націскам мусім падчыркнуць, што амэрыканскі народ, усьвядамляючы сваю кіраўнічую ролю ў сьвеце, выказаў вялікую гатоўнасьць паносіць для сьвету таксама непрапарцыянальна высокія ахвяры.

Калі-б, прыкладам, сяньня вярнулася Амэрыка да палітыкі ізаляцыянізму, так астальны сьвет ужо ня змог-бы здабыцца на паважную сілу, каб проціўставіцца небясьпецы камуністычнай агрэсіі. Яшчэ некалькі год назад адна Нямеччына, будучы адначасна ўвязанай у вайну з цэлым Захадам, магла поўнасьцю разьбіць Савецкі Саюз, калі-б у шале дзікай нацыянальнай гордасьці не нарабіла фатальных палітычных памылак у дачыненьні да падсавецкіх народаў. Сяньня-ж ня толькі разьбіць Савецкага Саюзу, але навет перад ім абараніцца ня здолеў-бы цэлы сьвет, калі-б не Амэрыка.

Амэрыканскі народ дастаткова здае сабе справу з гэтага выключнага палажэньня Амэрыкі й з поўнай сьведамасьцю узяў на сябе ролю абароньніка вольнасьці цэлага сьвету, уважаючы гэта за сваю гістарычную місыю.

Побач зь іншымі мерапрыемствамі, якія ад апошняй вайны праводзіць Амэрыка, з мэтаю выкананьня гэтае місыі былі прынятыя нязвычайна важныя пастановы нядаўна закончанай сэсыі 82 амэрыканскага кангрэсу. Прыняцьце 91-мільярднага бюджэту на пэрыяд часу да 30 чэрвеня 1952 г., што зьяўляецца найвялікшым бюджэтам, які калі-небудзь у мірны час меў месца ў Амэрыцы, як ня трэба лепей сьветчыць аб зразуменьні Амэрыкай ейнай адказнасьці за лёс цэлага сьвету. А яшчэ больш сьветчыць аб гэтым факт, што роўна 75 мільярдаў гэтага бюджэту прызначаны выключна на збраеньні, як свае собскія, гэтак і запрыязьненых і саюзных гаспадарстваў сьвету. Аб нязвычайна прагрэсыўным тэмпе амэрыканскіх збраеньняў можна судзіць з таго факту, што расходы Амэрыкі на абаронныя мэты й на збраеньні ад пачатку Карэйскага канфлікту з 13,2 мільярдаў даляраў павялічыліся да 62,9 мільярдаў, г. зн. амаль што ў пяць разоў.

Гэтыя вялізарныя мерапрыемствы дзеля абароны сьвету робіць амэрыканскі народ коштам вялікіх собскіх цяжараў і ахвяраў у людзях. Бо вось адначасна з пастановаю кангрэсу аб 8 мільярдах замежнае помачы была прынятая пастанова аб павялічэньні даходаў з амэрыканскіх падаткаў на 12 працэнтаў (5,75 мільярдаў даляраў). Згодна паведамленьня зь Белага Дому, мае й у далейшым адбывацца паступовае павялічэньня амэрыканскіх падаткаў дзеля пакрыцьця расходаў на ўзбраеньне.

Апошняя сэсыя кангрэсу вынесла таксама пастанову, што амэрыканскія збройныя сілы, першы раз у гісторыі, у мірны час будуць стацыянаваць у вялікім маштабе паза межамі сваей бацькаўшчыны, стоячы на варце сусьветнага міру. Паўночна-амэрыканскія збройныя сілы ў бальшыні сваей маюць быць узаружаныя амэрыканскай зброяй. Кажны малады амэрыканец павінен заўсёды быць гатовым шэсьць месяцаў перад дасягненьнем дзевятнаццаці год жыцьця быць пакліканым да адбываньня ваеннае службы. Прадукцыя тавараў першае патрэбы ў сувязі зь перастаўленьнем народнае гаспадаркі на ваенныя рэйкі апошнім часам была значна абмежаваная. Хаця ўсюды там, дзе імкненьні да супольнай бясьпечнасьці вольных народаў былі першы раз выстаўленыя на пробу, шмат народаў нясуць супольныя ахвяры, факт аднак астаецца фактам, што сяньняшнюю вайну на Далёкім Усходзе ў 90 працэнтах вядуць самі амэрыканцы й што колькасьць забітых і раненых амэрыканцаў дасягнула ўжо амаль ста тысячаў чалавек.

На ўвагу таксама заслугоўвае й тая акалічнасьць, што за правядзеньне ўсіх гэтых абаронных мерапрыемстваў галасавала вялікая бальшыня сяброў кангрэсу як дэмакратаў, гэтак і рэспубліканцаў. Гэта сьветчыць, што ўсе слаі вялізарнай бальшыні амэрыканскага народу, ня гледзячы на ягоную партыйную прыналежнасьць, дабравольна ўзялі на сябе гэтыя цяжары й што такая амэрыканская палітыка ня зьменіцца й пасьля новых прэзыдэнцкіх выбараў, што адбудуцца ў лістападзе наступнага году.

Падчырківаючы зь вялікім прызнаньнем аб глыбокім усьведамленьні амэрыканскім народам сваей гістарычнай місыі й вялікай для яе ахвярнасьці, трэба зь ня меншым націскам таксама падчыркнуць, што разуменьне гэтае місыі ў амэрыканскім народзе ёсьць пакуль што мельмі аднабокае. Амэрыка, як і ўвесь заходні сьвет, імкнецца сяньня толькі да абароны перад бальшавіцкім нявольніцтвам народаў яшчэ вольных, затое зусім ня цікавіцца лёсам народаў ужо паняволеных. Яна гатовая пасьвяціць гэтыя народы на поўнае вынішчэньне, абы толькі іхным коштам загарантаваць на нейкі час бясьпечнасьць для рэшты сьвету. Больш таго, наперакор аснаўным прынцыпам дэмакратызму, Амэрыка яшчэ сяньня зьяўляецца староньнікам далейшага паняволеньня цэлых дзесяткаў народаў, у тым ліку й народу беларускага, выказваючыся за далейшае захаваньне расейскай турмы народаў у сваіх плянах будучага ўпарадкаваньня эўрапэйскага Усходу й падсавецкай Азыі. Такі рэзкі адыход амэрыканскай палітыкі ад дэмакратычных прынцыпаў у дачыненьні да нашых народаў адыймае амэрыканскай місыі ў сьвеце ейны ідэйны характер і ейную атракцыйную сілу.

Трэба аднак верыць, што такі кірунак амэрыканскай палітыкі незадоўга зьменіцца. Ніякі не сакрэт, што дасюлешні цяжар абароны вольнага сьвету ўзяла на сябе Амэрыка не з гуманітарных матываў ратаваньня іншых народаў для іх самых, але з простага разьліку, што іхнае нявольніцтва непасрэдна прывяло-б да паняволеньня й самога амэрыканскага народу. Такая-ж самая канечнасьць змусіць напасьледак амэрыканцаў таксама ўзяць на сябе ролю вызвольнікаў народаў ужо паняволеных, як і адкінуць усякія пляны іхнага паняволеньня ў будучыні.

**Язэп Каранеўскі**

# ПАГОНЯ ЗА ДАЛЯРАМ

## або яшчэ раз аб „тараканох у саладусе‘

Выдаваны ў Рыме беларускі рэлігійны часапіс «Зьніч» зьмясьціў у нумары 12—13 актуальны артыкул «Крыху рэарыентацыі», у якім знаходзім войструю, але справядлівую крытыку нашай новай эміграцыі ў краіне даляра — Задзіночаных Штатах Амэрыкі. Гэтая эміграцыя ў вартыкуле трапна прыроўніваецца да прыказковага беларускага «таракана ў саладусе». Гэтае згаладалае й лішняе ў хаце стварэньне, прыпадкова ўваліўшыся ў дзежку саладухі, «загубіла інстынктовую меру свайго самазахаваўства, утрымоўваючую яго на жыцьцямагчымай паверхні: піло, жлопала яно, пакуль не пайшло на дно...» Падобна й новыя нашыя эмігранты, нацярпеўшыся ў ДП-лягерах у Нямеччыне недастаткаў, голаду й холаду, зьдзеку й паняверкі й вырваўшыся за акіян у краіну вялікага дабрабыту й нязьмераных магчымасьцяў, адразу, як той таракан у саладусе, страцілі ўсякую годную чалавека меру й усю сваю энэргію, зацікаўленьні й імкненьні сьціравалі на тое, каб як найхутчэй разбагацецца й сваім вонкавым блескам ня толькі дагнаць, але й перагнаць такіх-жа, як яны, амэрыканцаў.

На пацьверджаньне ўсяго гэтага, прыводзіць «Зьніч» ліст свайго ідэйнага супрацоўніка ў ЗША, які, будучы незараджаным даляровай хваробай, змог трэзва й аб'ектыўна ацаніць палажэньне. Там між іншым чытаем: «Новая эміграцыя таксама хутка «бяднее», калі пачынае купляць зямлю, дамы, аўты. Пакуль ня купіў, дык яшчэ дасьць на газэту ці якую грамадзкую справу пару цэнтаў (радзей даляр), а як купіў, дык ня мае, бо мусіць сплачваць купленае. А трэ' сказаць, што ўжо некалькі новых эмігрантаў пакупляла тут сабе дамы, а аўты дык стараецца купіць амаль кажны, і то ўсё гоніцца за новым. Мясцовыя амэрыканцы, як напрыклад наш дырэктар хвабрыкі езьдзіць у старым абдрапаным аўце, але нашаму дыпісту дык «стыдна» ў гэтакім паказацца...»

А вось некалькі слоў зь пісьма яшчэ нядаўна актыўнага й нацыянальна ідэйнага беларуса, які, апынуўшыся ў Нью Брунсьвіку, піша да свайго прыяцеля ў Нямеччыне:

«На гэтым тыдні будзем пераносіцца на новую кватэру, ужо шмат выгаднейшую й танейшую. Закупілі новую мэблю да спальні й да «лівінг рум». Таксама купілі для кухні сваю мадэрную электрычную лядоўку. Памалу пачынаем нармальнае жыцьцё. Магчыма ў хуткім часе куплю новы свой аўтамабіль...»

Гэты ліст тыповы бадай што для ўсей нашай новай эміграцыі ў Амэрыцы. Сколькі мне ня прыходзілася самому атрымліваць пісьмаў з Амэрыкі або чытаць чужыя, пісаныя да маіх знаёмых у Нямеччыне, за рэдкімі выключэньнямі ўсе яны былі ў такім-жа тоне: адзіным ідэалам новага беларускага эмігранта ў Амэрыцы — быў даляр, вялікае й выгоднае памешканьне, электрычная лядоўка, аўта, ну й собскі дом. Затое пра стан нашага нацыянальна-вызвольнага руху й пра пляны грамадзкай працы бадай ніхто ані пытаўся ані інфармаваў.

За гэтую даляровую гарачку нашае эміграцыі ў ЗША мы не абураліся-б, калі-б не адбывалася яна коштам духовага абядненьня нашых там суродзічаў, прытупленьня іхных нацыянальных пачуцьцяў, раптоўнага зьніжэньня ідэйнага ўзьлёту. Высокія нацыянальна-вызвольныя ідэі беларускага народу, якімі яшчэ нядаўна ў Нямеччыне жыла нашая інтэлігенцыя, пачуцьцё абавязку ахвярнай працы й змаганьня над іхным ажыцьцяўленьнем уступілі месца ніскім матарыялістычным інстынктам.

На выніку чакаць доўга ня прыйшлося. На працягу двух апошніх год вывэміґравала ў ЗША аснаўная маса беларускіх жыхароў лягераў ДП у Нямеччыне, а сярод яе — амаль увесь цьвет нашае передавое інтэлігенцыі — палітычныя й грамадзкія дзеячы, кіраўнікі нашых установаў і інстытуцыяў, паэты й пісьменьнікі. Нашыя інтэлігенцкія вярхі, дзякуючы сваей палітычнай блізарукасьці ці з мэтаю апраўданьня свайго гарачкавага бегу ў краіну даляра, намагаліся пераканаць усіх, што толькі ў ЗША будуць найлепшыя ўмовы й шырокія магчымасьці нацыянальнае дзейнасьці, што цэнтр нашага палітычнага й грамадзкага жыцьця павінен быць перанесены ў Амэрыку, бо толькі там вырашаюцца найважнейшыя праблемы сусьветнай палітыкі. І ніхто не ўважаў за патрэбнае мэтазгоднага рэгуляваньня адплыву зь Нямеччыны нашых нацыянальных сілаў, каб забясьпечыць імі ўсе нашыя эміграцыйныя асяродзьдзі, як гэта рабілі іншыя нацыянальнасьці. Пры гэтым усе яны прысягаліся, што як толькі пападуць у вольную краіну Вашынгтона, дык усе свае сілы й здольнасьці прысьвецяць ня толькі кантынуваньню нашае нацыянальнае дзейнасьці, але, выкарыстоўваючы новыя магчымасьці, яшчэ яе пашыраць і паглыбяць.

Што-ж асталося сяньня з усіх гэтых, магчыма й шчырых тады абяцанак? Калі-б не невялічкія групкі нашае эміграцыі ў іншых заакіянскіх краінах, як і ў Эўропе, а ў тым ліку й у Нямеччыне, дзе матарыяльныя ўмовы значна горшыя або й зусім нягодныя, дык аб нашай нацыянальна-вызвольнай працы на чужыне ня было-б чым і пахваліцца. Нашыя работнікі ў Ангельшчыне, дзе значна горшыя ўмовы працы й заработкаў, супольнымі высілкамі купляюць сяньня за цяжка запрацаваныя грошы грамадзкія дамы для сваіх арганізацыяў і ўстановаў, тады калі ў ЗША купляюць толькі дамы собскія ды новыя аўты. Дасло́ўна некалькі нашых інтэлігентаў, што не змаглі выехаць зь Нямеччыны, жывучы ў цесных лягерных канурках, церпячы вялікі недастатак і ня маючы перад сабою ніякіх жыцьцёвых пэрспэктываў, змаглі разбудаваць бела-

(Заканчэньне на бал. 4)

рабляньні сялянамі цукру кустарным спосабам.

### РЭКІ, АЗЁРЫ, РЫБАЦТВА

Беларусь, адсунутая ад мора, атрымала як-бы ў нагароду ад прыроды вялічэзныя водныя прасторы ўнутры. Таму ў гэтым дачыненьні Беларусь зьяўляецца найбольш упрывілеяванай краінай эўрапэйскага кантынэнту.

Шэсьць вялізных рэк, як Нёман, Заходняя Дзьвіна, Дняпро, Бярэзіна, Сож, Прыпяць, злучаныя ў сваім вярхоўі каналамі з мноствам меншых і большых рэк і рэчак, лучаць густой сеткай усе куткі Беларусі з Чорным і Балтыцкім морам. Каля трох тысяч азёр зьяўляюцца расьсеяныя, як пэрлы, па ўсей Беларусі.

Некаторыя раёны Беларусі можна назваць проста азёрнымі краямі. У ваднэй толькі Віленшчыне налічваецца каля 400 азёраў, а ў Лепельскім павеце каля 900. Агулам-жа ўвесь водны прастор Беларусі аблічваецца прыблізна на 20.000 кв. кілямэтраў.

Усё гэта ў перамешку з прыгожымі беларускімі лясамі надае Беларусі цудоўны краявід, бо што-ж больш упрыгожвае край, як не вада зь лясамі?

Але, апрача красы, водныя прасторы Беларусі маюць для нас вялізарнае значэньне гаспадарскае. Найперш, аднюсна дробны характар пераважаючай бальшыні нашых азёраў і ставоў зьяўляецца вельмі прыступным для культурнай рыбацкай гаспадаркі. Калісь я, праходячы праз Нямеччыну, бачыў адзін невялікі ставок у Баварыі на некалькі сот кв. мэтраў, у якім немец разводзіў пстрангі (фарэлі). Пры гэтым стаўку стаяла прыгожая двухпавярховая камяніца з багатымі мэблямі. Немец меў два аўтамабілі, адзін цяжкі, другі пасажырскі, двое ягоных дзяцей вучылася ў унівэрсытэце — і ўсё гэта за даход з таго стаўка. На нашых-жа водных прасторах, рахуючы, што на адным гэктары можа быць 10.000 эгзэмпляраў рыбы (як цьвердзяць аграномы-рыбаводы), магло-б у нас гадавацца 20.000.000.000 рыбаў.

Дагэтуль на Беларусі культурнай рыбацкай гаспадаркі ня было. Рыбу лавілі дзікім спосабам якраз тады, калі яе ня можна лавіць — падчас нерасту. Калі-ж павесьці на Беларусі рыбную гаспадарку як належыць, культурна ды ў гаспадарстваўскім маштабе, дык Беларусь мела-б ня толькі ўдоваль рыбы для сябе, а й тысячы тонаў на экспарт. Рыба-ж салодкіх водаў, як ведама, шмат лепшая за рыбу марскую. Таму збыт яе быў-бы заўсёды забясьпечаны.

### РЭКІ, ЯК КАМУНІКАЦЫЙНЫЯ ШЛЯХІ Й ЯК ЭНЭРГІЯ

Беларускі эканамісты Бурбіс аблічыў, што да вайны 1914 г. у Беларусі было прыгодных водных шляхоў 25.000 вёрстаў, зь іх каля 7.000 прыгодных для параплаваў і каля 18.000 — для барак і плытоў.

У 1919 г. адзін заходня-эўрапэйскі эканамісты інжынер распрацаваў праект, у якім — да рэчы — браў удзел ведамы наш дзеяч Антон Луцкевіч, для выкарыстаньня беларускіх рэк, як шляху спалучэньня Балтыцкага мора з Чорным. Фактычна былі распрацаваныя два праекты: адзін з Рыгі праз Дзьвіну, Бярэзіну, Дняпро. Другі — з Кэнігзбэргу церазь Нёман, Аўгустоўскі канал, Прыпяць, Дняпро.

Абодвы праекты былі перададзеныя эканамічнай сэкцыі Лігі Нацыяў, якая мелася дабіцца згоды на правядзеньне гэтых водных шляхоў ад тагачасных гаспадароў Беларусі. Былі ўжо й ахвотнікі фінансаваць гэтае так цікавае прадпрыемства, гутарылася ўжо аб магчымасьцях расчысткі некаторых каналаў і рэк да такога разьмеру, што марскія параходы маглі-б перасякаць Беларусь безь перагрузак. Зрэалізаваць-жа ніводнага з гэтых праектаў не ўдалося з прычынаў чыста палітычных — нязгоды нашых акупантаў.

Няма сумліву, што Беларусь незалежная ніколі гэткім праектам не працівілася-б, бо тэта-б вельмі падняло эканамічна наш край, ажывіла-б наш гандаль і зносіны з шырокім сьветам. Але няма таксама сумліву, што такія праекты калісь зрэалізуюцца й то яшчэ можа ў шырэйшым маштабе, бо ўжо й пасьля гэтае вайны мы чулі галасы гаспадарстваўскіх мужоў Амэрыкі й Ангельшчыны аб патрэбе інтэрнацыяналізацыі буйнейшых рэк Эўропы, якія зьяўляюцца лагоўнымі камунікацыйнымі артэрыямі.

Беларускі-ж водны шлях «З Вараг у Грэкі» ведамы сьвету яшчэ із старажытнай гісторыі.

Густая сетка сярэдніх і драбнейшых рэк і рэчак дае змогу дапраўляць меншыя баркі, грузы, а галоўнае сплаў лесу, да галоўных артэрыяў — вялікіх рэк Беларусі, як для экспарту ў марскія парты, так і для нутранай таннай камунікацыі.

### БЕЛЫ ВУГАЛЬ

Вельмі шмат беларускіх рэк, асабліва такія быстраплаўныя, як Нёман, Заходняя Дзьвіна, Дняпро, высакабярэжная Вяльля, надаюцца для будоўлі магутных электрастанцыяў. Вядомы беларускі дзеяч інжынер Душэўскі чытаў у 1920 г. даклад у Вільні, зь якога выводзіў, што на падставе ягонага падлічэньня на Беларусі ёсьць столькі вадзяное энэргіі, што ёй можна зэлектрыфікаваць усю індустрыю й транспарт Беларусі.

На дробных рэчках, дзе ня вымагалася якіхсьці асаблівых выдаткаў, нашыя сяляне будавалі млыны, валюшы, воўначоскі й іншы дробны промысл, проста прыладжваючы вадзяныя калёсы.

### ЛЕС

Лясная плошча Беларусі займае 25—26% усяе тэрыторыі, што складала каля 95.000 кв. вёрстаў. Інжынер Душэўскі аблічыў, што калі падзяліць усю лясную плошчу Беларусі на 100 дзялянак з тым разьлікам, каб прадаючы кажны год адну такую дзялянку на экспарт можна было ўзноў, вярнуўшыся за сто год, дастаць на гэнай дзялянцы дарослы лес, — дык з гэтага экспарту мы маглі-б цалком пакрыць гадавы гаспадарстваўскі бюджэт Беларусі.

Запраўды, адна толькі француская фірма Coze et Cie падпісала была ўмову з урадам БНР у 1918 г. на закуп беларускага лесу на суму 40.000.000 залатых франкаў. А колькі-ж-бы ад нас патрабавала ляснога матарыялу Нямеччына ці зусім бязьлесістая Украіна, да сэрца якой, як распрадзельчага гандлёвага цэнтру — Кіява даплывае па Дняпры мноства беларускіх рэк і рэчак, абгібаючых ці проста прарэзаючых беларускія лясныя раёны.

Агулам за рынкі збыту й канкурэнцыю нам няма чаго турбавацца. Адзінае гаспадарства, якое з намі магло-б канкураваць лесам, дык гэта Расея, але нашая блізкасьць да рынкаў збыту, перавага якасьці нашых лясоў, ды што найгалаўнейшае — упрывілеяванасьць нашых камунікацыйных шляхоў — сплаву, выключае й гэтую канкурэнцыю.

Апрача даходу з экспарту сырога будаўлянага матарыялау, можам яшчэ мець дадатковы даход, разьвіўшы ў сябе дзеравяна-абрабляючую індустрыю, прыкладам, выраб фанеры, паперы, мэбляў. З карчоў вырабляюць тэрпэнтыну, на якую ў нас так вялікі попыт з боку Нямеччыны для яе хімічных хвабрыкаў.

З шыльніку, кары й дробнага хварасьця можна вырабляць сынтэтычную бэнзыну, як гэта пачалі ў сябе рабіць швэды.

Пры добрым гаспадараваньні можам мець не малы даход і зь дзічы, якой гэтак багатыя нашыя лясы, пачынаючы ад адзіных у сьвеце зубраў, рэдкіх у Эўропе й дарагіх сваімі скурамі куніцаў, баброў, ласёў, дзікіх козаў, дзікоў, лісаў, барсукоў зь іх дарагой шэрсьцю і канчаючы на розных драбнейшых. Маем таксама мноства птушак — жураўлёў, дзікіх гусей, качак, цецярукоў, курапат і інш.

Багатыя нашыя лясы таксама грыбамі й шматлікімі сартамі ягад, зь якіх пры добрай арганізацыі можна выражляць добрую мармаляду й розныя напіткі. Грыбы-ж заўсёды становілі паважны артыкул экспарту Беларусі.

Агулам пры разумнай, добра арганізаванай лясной гаспадарцы, пры сучаснай тэхніцы й голадзе Эўропы на лясныя прадукты могуць добра выжыць 5—6 мільёнаў беларускага насельніцтва. Пры акупацыйных-жа ўмовах беларус вельмі мала карыстае із свайго лесу. Навет грыбы й ягады мусіў зьбіраць украдкам, быццам злодзей.

Словам лес — гэта нашыя вялізарныя багацьці й крыніцы даходу.

Кажны таму акупант, як толькі дабіраўся да Беларусі, адразу накідаўся на наш лес, сек, рэзаў і рассылаў яго зь Беларусі на ўсе бакі сьвету. Цэлую вясну й да палавіны лета няўпынна былі запруджаныя бельлю бярвеннай плыні ўсе беларускія рэчкі, а беларускаму селяніну, які падштрухіваў бусаком выплываючыя зь Беларусі мільёны золата, чаўплі аб беднасьці ягонай бацькаўшчыны.

**Інж. М. Абрамчык**

(Працяг у наступным нумары)

